# Падзеі ◆ Здарэнні ◆ Факты ◆ Каментарыі ◆ Весткі



## СВЕТ

### ЗАКОНЧЫЎСЯ X З'ЕЗД РКП

На заканчэнне X з'езда Румынскай камуністычнай партыі, у якім ад імя ПАРП прымалі ўдзел член Палітбюро ЦК ПАРП **Юзэф Тэйхма** і член ЦК **Аркадзіуш Лашэвіч,** адбыўся вялікі мітынг насельніцтва ў Бухарэсце. З прамоваю выступіў Н. Чаушэску, які на закрытым пасяджэнні быў выбраны зноў генеральным сакратаром ЦК РКП. Згодна з прынятым на X з'ездзе новым статутам партыі, генеральнага сакратара выбраў з'езд. Выбраны таксама 165-асабовы ЦК, 120 намеснікаў членаў ЦК і Цэнтральная рэвізійная камісія.

На першым пленарным пасяджэнні новы Цэнтральны Камітэт выбраў 21-асабовы Выканаўчы камітэт і 10 намеснікаў членаў Выканаўчага камітэта, Пастаянны Прэзідыум Выканаўчага камітэта і 7-асабовы сакратарыят ЦК.

X з'езд Румынскай камуністычнай партыі, які працягваўся 7 дзён, зрабіў баланс дзейнасці партыі за перыяд ад папярэдняга з'езда, а таксама накрэсліў мэты і заданні РКП на бліжэйшыя гады.

### НОВАЯ КІТАЙСКАЯ ПРАВАКАЦЫЯ

13 жніўня г.г. некалькі груп кітайскіх салдат парушыла савецкую граніцу ў Семіпалацінскай вобласці (Казахстан) і пасунулася ў глыб савецкай тэрыторыі. У выніку крокаў, якія прынялі савецкія пагранічнікі, няпрошаныя госці былі адкінуты па-за межы тэрыторыі СССР.

Нягледзячы на асцерагаючыя сігналы і патрабаванні пакінуць тэрыторыю СССР, — гаворыцца ў ноце Міністэрства замежных спраў да кітайскага пасольства ў Маскве, — няпрошаныя госці не толькі прадаўжалі аставацца на савецкай тэрыторыі, але адкрылі агонь з аўтаматаў да савецкіх салдат — пагранічнікаў. Кітайскі бок стараўся падцягнуць яшчэ дзве далейшыя групы салдат па 60—70 чалавек. Савецкія пагранічнікі адкінулі няпрошаных гасцей па-за межы тэрыторыі СССР. Два кітайскія афіцэры былі затрыманы пры гэтым на савецкай тэрыторыі.

Факты сцвярджаюць, што ўзброеная правакацыя кітайскіх улад і на гэты раз была падрыхтавана. Напярэдадні правакацыі, 12 жніўня, назіранні выказалі, што на гэтым адрэзку кітайскі бок падцягнуў падраздзяленні салдат і абсталёўваў лініі сувязі. Савецкія пагранічныя ўлады, каб папярэдзіць складаную сітуацыю, паклікалі прадстаўніка кітайскіх пагранічнікаў, які аднак адхіліўся ад сустрэчы, — гаворыцца ў ноце СССР.

### НА КУБЕ

У Гаване прабываў генеральны сакратар Камуністычнай партыі Іспаніі Сант'яга Карыла. У сувязі з яго візітам трэба напомніць, што на Кубе пражывае многа іспанскіх палітычных эмігрантаў. З'яўляюцца яны адным з наймацнейшых заграпічных звенняў КП Іспаніі.

Мяркуецца, што апрача размоў з кіраўніцтвам КП Кубы, цікавіла генеральнага сакратара КП Іспаніі актуальная палітычная сітуацыя сярод тутэйшых эмігрантаў з Іспаніі. Нанесены візіт можа быць элементам умацавання супрацоўніцтва паміж абедзвюма партыямі.

А. К.



## БССР

### НАВУЧАЛЬНАГА

У Цэнтральным Камітэце камсамола Беларусі адбылася нарада сакратароў абкомаў, гаркомаў і райкомаў камсамола па пытаннях падрыхтоўкі да новага навучальнага года ў сістэме камсамольскай палітасветы і агульнаадукацыйнай вучобы рабочай і сельскай моладзі.

Выказалася думка, што трэба часцей прыцягваць да вучобы прапагандыстаў — вучоных, выкладчыкаў вышэйшых навучальных устаноў, высокакваліфікаваных лектараў.

Даклад меў першы сакратар ЦК Генадзь Жабіцкі. Ён м. ін. сказаў:

«Пераход да агульнай сярэдняй адукацыі з'яўляецца вялікім сацыяльным дасягненнем нашага народа і азначае далейшае сціранне розніцы паміж разумовай і фізічнай працай. У нашай краіне ідзе актыўны працэс фарміравання новага тыпу селяніна і рабочага, якога справядліва называюць рабочым інтэлігентам і якога, на жаль, вельмі кепска ведае старшакласнік (...)

Цяпер задача заключаецца ў тым, каб у 10 класе не было ніводнага вучня, які б свядома і цвёрда не вызначыў сваю будучую прафесію (...) Было б больш чым наіўна думаць, што, не ствараючы пэўнай атмасферы, грамадскай думкі, мы зможам узняць аўтарытэт тых або іншых прафесій і сарыентаваць на іх выпускнікоў школ».

### АКРУГОВАЯ

У Мінскім доме афіцэраў адбылася акруговая ваенна-тэарэтычная канферэнцыя, прысвечаная ваеннай спадчыне У. І. Леніна.

Абмеркавана асноўныя этапы барацьбы Камуністычнай партыі на чале з У. І. Леніным за стварэнне і ўмацаванне Чырвонай Арміі і флоту, паказана ваенны бок дзейнасці Леніна, яго пастаянныя клопаты аб аснашчэнні арміі ўсім неабходным, аб выхаванні каманднa-палітычных кадраў, усіх воінаў у духу свядомай жалезнай дысцыпліны і адданасці сваёй Радзіме. Ваенныя запаветы вялікага правадыра не страцілі сваёй актуальнасці і сёння.

У рабоце канферэнцыі прынялі ўдзел часова выконваючы абавязкі камандуючага войскамі Чырвонасцяжнай Беларускай Ваеннай акругі генерал-лейтэнант танкавых войскаў У. Макараў, начальнік штаба генерал-палкоўнік Р. Арыка.

### ДВУХМІЛЬЁНАВЫ

З галоўнага канвеера магілёўскага завода «Электрарухавік» сышоў двухмільёнавы электраматор.

Вытворчасць матораў на прадпрыемстве з году ў год расце. Калі на выпуск першага мільёна іх заводу запатрабавалася 16 гадоў, то другі мільён выраблены на працягу трох з паловаю гадоў.

### ЛЕНІНІЯНА

Больш 12 тысяч лектараў і дакладчыкаў абласной арганізацыі таварыства «Веды» ў Брэсце нясуць у масы ленінскія ідэі, яго тэарэтычную спадчыну. Тэмы дакладаў: «Ленінскія прынцыпы партыйнага і дзяржаўнага кіраўніцтва», «Ленінскія прынцыпы знешняй палітыкі Саюза ССР», «Які быў У. І. Ленін» і інш.

### ІНТЭРНАТА

Пачалося будаўніцтва найбольшага інтэрната Беларускага ўніверсітэта, на 1.200 месц.

(ся)

## ПОЛЬШЧА

### НАЦЫЯНАЛЬНЫ ДАХОД

Нацыянальны даход краіны ўзрос на працягу 1968 года на 9 працэнтаў, дасягаючы такім чынам найвышэйшага тэмпу ў гэтай пяцігодцы. Чыстая прадукцыя нацыяналізаванай гаспадаркі ўзрасла на 9 працэнтаў. На прамысловасць выпадае 52,7 працэнта выпрацаванага нацыянальнага даходу, на будаўніцтва — 9,7 прац., на сельскую гаспадарку — 20,1 працэнта і на ўсе іншыя галіны гаспадаркі — 17,5 працэнта. Назіраецца ўзрост удзелу ў нацыянальным даходзе прамысловасці і будаўніцтва, а зніжэнне ўдзелу сельскай гаспадаркі. Фонд спажыцця ў параўнанні з 1967 годам пабольшыўся на 6 працэнтаў, а ў пераліку на 1 жыхара — на звыш 5 прац. Узрост яго быў хутчэйшы, чымсьці ў папярэдніх гадах. Тэмп узросту сродкаў на інвестыцыі ад 4 гадоў утрымліваецца на ўзроўню каля 12 працэнтаў.

### ДАЖЫНКІ

Нягледзячы на велізарныя цяжкасці, звязаныя з пагодай, сёлеташняе жніво адбылося надзвычай хутка і спраўна. Зараз трывае падрыхтоўка да традыцыйных цэнтральных дажынак, якія адбудуцца ў Варшаве на стадыёне X-годдзя 7 верасня. Апрача жыхароў сталіцы і дэлегацый прадпрыемстваў, прыме ў іх удзел 50 тысяч сялян. Прыедуць яны ў сталіцу 36-цю спецыяльнымі цягнікамі і шматлікімі аўтобусамі з усіх канцоў краіны.

### ПАН

Звыш 10 тысяч асоб працуе ў Польскай акадэміі навук. У тым ліку каля 8 тысяч асоб працуе ў навукова-даследчых інстытутах. У 82 інстытутах навуковыя доследы вядуць 550 самастойных працаўнікоў навукі — прафесараў і дацэнтаў. Гадавы бюджэт ПАН складае каля мільёна злотых. У сувязі з новымі заданнямі, якія ставяць перад навукай партыйныя і дзяржаўныя ўлады, Польская акадэмія навук будзе значна разбудавана. Разбудова гэтая пойдзе перад усім у напрамку большага заангажавання вучоных і навукі ў вырашэнне асноўных праблем нашай гаспадарчай практыкі.

### ТАЛЯНА

Тамашоўскае прадпрыемства штучнага валакна пачало прадукцыю новага воўнападобнага валакна пад назвай «таляна». Валакно прызначаецца перад усім на выраб дываноў.

### СТУДЭНТЫ

У Польшчу прыехала група замежных студэнтаў (з Францыі, Нарвегіі, Галандыі, Бельгіі, ЗША), якая супольна з польскімі калегамі прыступіць да працы пры будове дарогі, спалучаючай Быдгашч з Варшаваю.

### РЭКОРД

На працягу месяца ліпеня польскія докеры дабіліся рэкорду пагрузкі, перагружаючы больш 2,5 мільёна тон грузу. Зараз у трох портах Польшчы (Гдыня, Гданьск і Шчэцін) прабывае каля 100 караблёў розных дзяржаў.

(п)



## ВАЯВОДСТВА

### ЗБОЖЖА ДЗЯРЖАВЕ

Да палавіны жніўня сяляне Беластоцкага ваяводства прадалі ўжо дзяржаве звыш 8 тысяч тон жыта з сёлеташняга плёну. У пастаўках збожжа найбольш актыўнымі аказаліся хлебаробы з Ломжынскага, Сямяціцкага і Манецкага паветаў. Як першы ў Сямяціцкім павеце адставіў жыта на скупачны пункт селянін з вёскі Грыбы Арэхі — Фелікс Жэро. У Бельскім павеце сяляне таксама ўжо пачалі прадаваць жыта дзяржаве. З. Сарнацкі з вёскі Кашэва адразу з поля адвёз у дзяржаўныя склады аж 5215 кг жыта, выконваючы гэтым чынам з вялікай надбаўкай свае кантрактацыйныя абавязацельствы. Надзея Чэрвінская з Райска прадала дзяржаве 1412 кг жыта, а Мар'ян Макавецкі з вёскі Банькі — 865 кг.

### ПАМЯЦІ ПАЎСТАНЦАМ

У 26-ую гадавіну ўзброенага паўстання ў Беластоцкім яўрэйскім гета адбылося ў Беластоку ў Доме прафсаюзаў ўрачыстае пасяджэнне, у якім прынялі ўдзел прадстаўнікі камбатанцкай арганізацыі «ЗБоВіД», Грамадска-культурнага таварыства яўрэяў у Польшчы і гарадскіх улад горада Беластока. З дакладам аб адчайных змаганнях беластоцкіх яўрэяў з гітлераўскімі катамі выступіў сакратар Гарадскога камітэта ПАРП у Беластоку, тав. Юзэф Панкевіч. Барацьба ў беластоцкім гета прадаўжалася 10 дзён.

### ГОСЦЬ З ГРОДНА

Нядаўна з сяброўскім візітам пабываў на Беласточчыне вядомы беларускі пісьменнік Аляксей Карпюк. Наведаў ён сваю родную вёску Страшава, у Беластоцкім павеце, пабываў на месцы даўняга гітлераўскага лагера смерці ў Штутгофе, дзе ў час акупацыі быў ён вязнем, азнаёміўся з новымі кварталамі горада Беластока і яго помнікамі культуры.

Прасіў ён нас перадаць усім жыхарам Беласточчыны, з якой звязана яго дзяцінства, самыя сардэчныя прывітанні. Пры нагодзе прыпамінаем, што «Ніва» друкавала яго аповесць «Пушчанская адысея». У Савецкім Саюзе кніжкі Аляксея Карпюка дасягнулі ўжо мільённага тыража.

### ПРЫЯЦЕЛІ ДЗЯЦЕЙ

У час канікулаў актыўную дзейнасць праявіў павятовы аддзел таварыства прыяцеляў дзяцей у Гайнаўцы. Яго актывісты наладзілі дзяцінцы ў вёсках Лука, Нарва, Дубіны, Ляўкова Старое і Трасцянка. 60 працэнтаў коштаў утрымання гэтых дзяцінцаў пакрыла таварыства з уласнага фонду.

### ГАНДЛЁВЫ ФЕСТЫН

Бельскі ПЗГС і міжпавятовая спулдзельчая гуртоўня наладзілі ў Бранску вялікі выставачна-гандлёвы фестын, у час якога адбываліся паказы навейшай моды, хатніх прылад і некаторых машын. Усе дэманстраваныя тавары можна было купіць на месцы.

### ФУТБОЛЬНЫ ЮБІЛЕЙ

Футбалісты Беласточчыны адзначаюць у гэтым годзе саракагоддзе сваёй дзейнасці. Беластоцкая акруга Саюза футбалістаў сваё існаванне распачала ў 1929 годзе. Аб'ядноўвала яна тады 23 футбольныя клубы, у якіх было 45 футбольных каманд.

(вр)




**Niedziela, 24 sierpnia**

9.20 Program dnia. 9.25. „Lato 1969" — „Po żniwach". 10.00 „Przypominamy, radzimy". 10.10 „W imieniu Rzeczypospolitej" — film TVP („Stawka większa niż życie"). 11.10 Pstrągi — film węgierski. 11.30 „Samarkanda" („W świecie sztuki"). 12.00 Dziennik. 12.15 Przerwa. 13.20 Program dnia. 13.25 „Ojciec i syn" — film. 13.50 „Przemiany". 14.20 PKF. 14.30 Festiwal Kapel i Śpiewaków Ludowych. 15.05 „Kadryl w Janowie" („Ludzie i zdarzenia"). 15.25 „Wyprawa do Brazylii" — film dokument. 16.45 Losowanie Toto-Lotka. 17.00 Sprawozdanie z międzynarodowych zawodów pływackich o Puchar Europy. 18.00 „Piórkiem i węglem". 18.25 Program filmowy. 18.40 „Polemiki" (Sopot). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 IX Międzynarodowy Festiwal Piosenki w Sopocie. „Dzień Płytowy" W przerwie ok. 21.25 Magazyn Sportowy.

**Poniedziałek, 25 sierpnia**

16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 „Jak mieszkają zwierzęta" film z cyklu „Opowieści ze świata zwierząt". 17.25 Echo stadionu. 17.45 „Zanim powstanie kształt" — film węg. 18.00 Nowoczesność w domu i zagrodzie. 18.20 Sylwetki X Muzy: Wacław Kowalski. 18.45 Magazyn Postępu Technicznego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr Telewizji: Edward Radziński — Godziny miłości". 21.55 Jak budują w Moskwie — program z cyklu „Klucz do M-3". 22.25 Dziennik. 22.40 Program na jutro.

**Wtorek, 26 sierpnia**

10.00 „Człowiek, którego kocham" — film fab. prod. radz. 11.30 Przerwa. 16.25 Program dnia. 16.30 Opowieść z wydm — reportaż z Wilna. 16.50 Dziennik. 17.00 „Goście Czarnej Doliny" — film pol. 17.15 Telewizyjny Ekran Młodych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Powstańcy" — program dokumentalny z Katowic. 20.30 „Człowiek, którego kocham" — film prod. radz. 22.00 Lektury współczesne. 22.10 Dziennik. 22.25 Program na jutro.

**Środa, 27 sierpnia**

10.00 Film fab. prod. polskiej „Wiano". 11.35 Przerwa. 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 „O kotku, który bał się własnego cienia" — film rum. 17.10 Telewizyjny Kurier Warszawski. 17.30 Sprawozdanie z międzypaństwowego meczu piłki nożnej Polska — Norwegia. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Nasze wspólne maszyny. 20.45 „Zamek na Czorsztynie" — inscenizacja TV opery Karola Kurpińskiego. 21.35 Światowid. 22.05 PKF. 22.15 „Sprytna dziewczyna" — franc. nowela filmowa. 22.40 Dziennik. 22.55 Program na jutro.

**Czwartek, 28 sierpnia**

16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 Nie tylko dla pań. 17.25 Telewizyjny Kurier Lubelski. 17.40 Nad Odrą i Bałtykiem. 18.10 „Barkarola" — progr. muz. baletowy. 18.40 Za kierownicą. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 19.50 Przypominamy, radzimy. 19.55 Dialogi historyczne. 20.25 „Biały obłok" — film fab. prod. CSRS. 22.05 Refleksje. 22.35 Dziennik. 22.50 Program na jutro.

**Piątek, 29 sierpnia**

8.45 „Biały obłok" — film fab. prod. CSRS. 10.25 Transmisja uroczystości 25 rocznicy Słowackiego Powstania Narodowego w Bańskiej Bystrzycy. Po transmisji przerwa. 15.25 Program dnia. 15.30 Międzynarodowy mitting lekkoatletyczny na tartanie. 17.30 Dziennik. 17.40 Telewizyjny Kurier Mazowiecki. 17.55 Program filmowy „Mołdawska rapsodia" — film prod. radz. 18.50 Program dokumentalny „Zaczęło się w Sklabińskiej Dolinie. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Generał Ludvik Svoboda. 20.20 Film fabularny prod. czechosłowackiej „Koniec lata". 21.15 Recital piosenkarski z Katowic. 21.45 Dziennik. 22.00 Program na jutro.

**Sobota, 30 sierpnia**

10.00 „Droga Aniuty" film fab. prod. radz. 11.20 Przerwa. 16.00 Program dnia. 16.05 Progr. tygodnia. 16.30 Tramp. 16.50 Dziennik. 17.00 Spotkania z przyrodą. 17.30 Gawędy wilków morskich. 18.00 Podwieczorek przy mikrofonie. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.05 Program dokument. „NAJOCKS wkracza do akcji". 20.40 Film fabularny prod. USA „Urzeczona". 22.25 Dziennik. 22.50 „Bigos Starowarszawski" — wodewil. 23.40 Program na jutro.




**Piątek, 22 sierpnia**

8.00 Nowiny. 8.15 „Wesołe miasteczko". 8.45 Reportaż. 9.05 Koncert laureatów Wszechzwiązkowego Festiwalu Twórczości Amatorskiej. 10.05 „Pionieria". 14.55 Program dnia. 15.00 Film fab. dla dzieci. 16.25 „Leninowska sztafeta". 17.05 Film krótkometrażowy. 17.40 „W jednym szeregu". 17.55 Piłka nożna. „Dynamo" (Mińsk) — „Dynamo" (Moskwa). 18.45 „Sztafeta nowin". 19.30 „Kiermasz". Film dokument. 20.15 Festiwal w Sopocie.

**Sobota, 23 sierpnia**

8.00 Program rozrywkowy. 8.30 „Standartyzacja i postęp". 9.00 Spektakl TV dla uczniów. 10.15 Program sportowy. 10.45 „Drogą ojców — bohaterów". 11.25 „Szkatułka muzyczna". 11.45 TV atlas narodów ZSRR. Komi ASRR. 12.15 Koncert fortepianowy. 12.45 Przegląd międzynarodowy. 13.05 Film fab. dla dzieci. 14.45 „Bajka leśna". 15.00 TV barwna. 18.25 Film fab. 19.30 „Leninizm — sztandarem naszej epoki". 20.00 Nowiny. 20.15 Festiwal w Sopocie.

**Niedziela, 24 sierpnia**

8.00 „Kiosk muzyczny". 8.30 O wyższej szkole lotniczej. 9.15 Laureaci Nagrody Leninowskiej. 9.45. Dla uczniów. 10.45 „Gdzie była bitwa". 11.30 „W świecie sztuki". 12.00 „Godzina wiejska". 13.00 „Białe i czarne". 13.20 Film fab. dla dzieci. 14.30 Dla żołnierzy. 15.00 Koncert dla uczniów. 15.30 TV barwna. 16.30 „Młodzi gospodarze ziemi". 17.00 Program estradowy. 18.00 Film fab. 19.15 „Siedem dni". 20.00 „Tydzień sportowy". 20.15 Festiwal w Sopocie.

# ФОТАРЭПАРТАЖ З ФЕСТЫНУ БГКТ У НОВЫМ ВОСТРАВЕ

**(Фота ЦАФ—Сянько)**

**27 ліпеня ў Новым Востраве на Сакольшчыне адбыўся фестын БГКТ, прысвечаны 25-ай гадавіне Народнай Польшчы.**

**Ніжэй друкуем фотаздымкі з фестыну.**



Удзельнік фестыну.



Гарадоцкі жаночы харавы калектыў.



Глянь, столькі народу сабралося!..



З маміната пляча найлепш відаць.



...а Іванка не прышоў...



Каму свежай вадзічкі?



Выступае эстрада ГП «Лявоніха».

# KONTRASTY

Маем ужо жнівеньскі нумар беластоцкага месячніка «Кантрасты». У многіх сваіх матэрыялах адклікаецца ён яшчэ да знамянальнага юбілею нашай краіны. Рэдакцыя месячніка паставіла пытанне: якія дасягненні на працягу 25 год лічыце найважнейшымі ў сваёй галіне? На гэтае пытанне адказваюць: прафесар доктар медыцынскіх навук Стэфан Сошка, дырэктар Беластоцкага дзяржаўнага драматычнага тэатра Браніслаў Орліч, рэдактар сельскагаспадарчага тыднёвіка «Наша Весь» Ежы Савіцкі, кіраўнік павятовай і гарадской бібліятэкі ў Алецку Рышард Дэмбы і журналіст літаратурнай рэдакцыі беластоцкага радыё Веслаў Яніцкі. Іх выказванні адлюстроўваюць перамены, якія здзейсніліся на Беласточчыне ў розных галінах нашага жыцця дзякуючы народнай уладзе.

Апрача гэтага, шмат яшчэ чаго сярод артыкулаў, фельетонаў, вершаў і апавяданняў, рассеяных на звыш 40 старонках «Кантрастаў», заслугоўвае на ўвагу. Вось рэдактар Багуміла Камлерова праводзіць інтэрв'ю з намеснікам міністра сельскай гаспадаркі Ежы Попкам, які 6 год таму назад быў старшынёю Прэзідыума ВРН у Беластоку і па сённяшні дзень утрымоўвае з нашым ваяводствам цесную сувязь. Што ён думае пра Беласточчыну, як ацэньвае развіццё яе сельскай гаспадаркі і яе перспектывы? На гэтыя пытанні дае адказ інтэрв'ю. Артыкул Іпаліта Лісоўскага «Тыя жнівеньскія дні» прысвечаны Беластоку з першых месяцаў пасля вызвалення. Ён апавядае пра геройства і ахвярнасць беластоцкіх рабочых, якія проста з развалін, не азіраючыся на зарплату, аднаўлялі многія фабрыкі. Артыкул асновайы на ўспамінах многіх удзельнікаў тых падзей. Калі гутарка ідзе пра Беласток, дык варта ўспомніць пра апрацоўку Агнешкі Свідзінскай. Яна знаёміць чытачоў з уражаннямі вядомай польскай пісьменніцы Марыі Дамброўскай, якая ў 1924 годзе пабывала ў горадзе ля ракі Белай. М. Дамброўская свае ўражанні назвала: «Брыдкі горад». Яна хацела, каб Беласток хутка і карэнна змяніўся. Варта тады гэтыя ўражанні, запісаныя 45 год таму назад, прыраўнаць да цяперашняй рэчаіснасці.

Пра княжну Анну Ябланоўскую, якая два стагоддзі таму назад была ўласніцай Сямяціч, Высокалітоўска, Брэста і прыналежнай гэтым гарадам зямлі, піша Галіна Паёнк. Слаўная была жанчына — гэтая княжна. Па сённяшні дзень апавядаюць у Сямяцічах пра яе легенды.

Як заўсёды цікавы расказ Генрыха Падляскага з цыклу «Беластоцкі пітаваль». На гэты раз апавядае ён пра аднаго камбінатара, які шмат зарабіў грошай, выкарыстоўваючы людскую наіўнасць.

Прыхільнікам літаратуры можам рэкамендаваць даволі цікавае і змястоўнае апавяданне Лешка Кажушкі «Гульня ў шчырасць». І, урэшце, неабходна адзначыць, што Эдвард Рэдлінскі ўсебакова разглядае і ацэньвае творы Сакрата Яновіча, якія паявіліся ў зборніку «Загоны». «Кантрасты» на гэтую рэцэнзію адводзяць цэлую старонку друку. (вр)

# ДЫПЛОМ ДЛЯ „НІВЫ"

**5 жніўня адбылася сустрэча прадстаўнікоў рэдакцыі «Ніва», «Газеты Беластоцкай», «Нашай Всі», Беластоцкага радыё з дырэктарам Ваяводскай санітарна-эпідэміялагічнай станцыі лекарам Тадэушам Сухэцкім. Дырэктар паінфармаваў прысутных аб працы і значэнні гэтай установы, а пасля паасобным рэдакцыям, у тым ліку і «Ніве», былі ўручаны дыпломы за добрае супрацоўніцтва з санітарна-эпідэміялагічнай станцыяй. (мх)**

Пачатак на стар. 1




— Адкрыта ў вочы ніхто мне так не сказаў. А калі б сказаў, дык што? Я аднак стараюся знайсці ў кожнай вёсцы найбольш разумных гаспадароў і з імі дагаварыцца. Ды і шукаць іх мне не трэба. Яны самі шукаюць маіх парад. Вось такі Станіслаў Глябовіч з вёскі Шацілы. Пры кожнай нагодзе звяртаецца да мяне, пытае, расказвае пра свае вынікі. На яго палях, калі гаворка ідзе пра штучныя ўгнаенні, на кожны гектар прыпадае па нейкіх 130 кг хімічна чыстага рэчыва. Добрымі гаспадарамі з'яўляюцца таксама Рыгор Туровіч з Гуран, Васіль Хмялеўскі з Паўднёвага Вострава, Аляксандр Хомчык з Новага Вострава, Яўгень Малеша з Нетупы і іншыя. Яны ахвотна прымяняюць на практыцы мае парады, а іх вынікі захвочваюць аднавяскоўцаў. Такім чынам сяляне на ўласныя вочы пераконваюцца аб карысцях сучаснай агратэхнікі. Заатэхнік расказвае, вядома, пра жывёлагадоўлю. У гэтай галіне важная праблема — корм, бо сяляне з Гуранскай грамады адчуваюць недахоп сенажацяў. Неабходна тады будаваць сіласы, распаўсюджваць паплёны і дбаць аб чысціні пароды кароў, свіней і авечак.

Да гэтага мужчынскага хору неабходна дадаць хаця б адзін жаночы голас. Належыць ён Жэні Шуткевіч — энергічнай маладой дзяўчыне, якая з'яўляецца старшынёю гуртка Саюза вясковай моладзі ў Гуранах. Гурток гэты, заснаваны ў 1967 годзе, налічвае зараз 11 дзяўчат і хлопцаў. Першае, што зрабілі яны грамадскім чынам — гэта танцавальная пляцоўка. Працавалі дружна. Самі нарэзалі дошак, самі іх уклалі. Цяпер амаль кожную нядзелю наладжваюць там танцы. Жэня з гордасцю сцвярджае, што да іх на забавы прыязджаюць дзяўчаты і хлопцы з многіх навакольных вёсак. «Нават з Піражкоў!» — гаворыць яна. Члены гуранскага гуртка ЗМВ прымаюць актыўны ўдзел ва ўсіх грамадскіх мерапрыемствах сваёй вёскі.

Дарога Гуранскай грамады ў будучыню пракладаецца сярод узгоркаў Сакольшчыны, дзе пясчаная зямля. Пракладаць яе нялёгка, аднак пракладаецца, і гэта настройвае аптымістычна.

**М. Нурэцкі**

Пачатак на стар. 1

# МЫ НЕ СПАЛІ

ты, стымулаў для развіцця нашай гаспадаркі трэба шукаць перш за ўсё ў добрай арганізацыі працы, у поўным выкарыстанні прадукцыйных рэзерваў, у павышэнні прадукцыйнасці працы. Аднак асноўную ролю для развіцця нашай гаспадарча занядбанай Беласточчыны адыгрываюць новыя капіталаўкладанні. На працягу 6-ці мінулых месяцаў на карце прамысловага краявіду Беластоцкага ваяводства паявіліся керамічнае прадпрыемства ў Ляўкове на Гайнаўшчыне і фабрыка кафлярскай глазуры ў Беластоку. Гэтыя прадпрыемствы распачалі ўжо прадукцыйнае жыццё, узбагачаюць нашу краіну сваімі вырабамі. Апрача таго, у першым паўгоддзі г.г. закончана пабудова дома культуры ў Алецку, кіно-тэатра ў Сакольцы, 6-ці будынкаў для пачатковых школ, адзін будынак для дзіцячага саду і 4 будынкі для патрэб аховы здароўя грамадзян.

Новае на сваіх палях і лугах зарэгістравала сельская гаспадарка. Праведзена тут меліярацыя на каля 1800 гектарах сенажацяў, выганаў і палёў, 549 вёсак атрымала электрычнае святло. Значыць, зроблены яшчэ адзін крок на шляху змаганняў за пераўтварэнне адсталай гаспадаркі Беластоцкага ваяводства. Карыстаючыся дапамогай і падтрымкай дзяржавы, хлебаробы Беласточчыны памалу, але безупынна ідуць наперад, даганяюць сваіх калег па прафесіі з Познаньскага, Апольскага і другіх перадавых ваяводстваў. Пацвярджаюць гэта і іншыя паказальнікі. Вось на працягу гэтых 6-ці месяцаў сяляне Беласточчыны на пакупку трактараў, сельскагаспадарчых машын і прылад адвялі аж 313 мільёнаў злотых, на 20 працэнтаў больш, чым у мінулым годзе купілі яны штучных угнаенняў, наглядалася вышэйшае (на 14%) зацікаўленне прамысловым кормам для жывёлы, выразна павялічыліся пакупкі іншых тавараў, асабліва тавараў так званага трывалага ўжытку, напрыклад, тэлевізараў, радыёпрыёмнікаў, сціральных машын, халадзільнікаў. Такіх тавараў галодны чалавек не купляе. Нічога тады дзіўнага, што гандлёвыя ўстановы Беласточчыны лёгка перавыконваюць свае планавыя заданні і прадалі ўсялякіх тавараў аж на звыш 5 мільярдаў злотых.

Такі вось вобраз гаспадарчых поспехаў у першым паўгоддзі г.г. можам прадставіць сабе, разглядаючы справаздачу статыстычнага ведамства. Вобраз даволі пацяшальны.

Чым мы багаты ў галіне культуры і асветы?

У пачатковых школах ваяводства вучылася 214 тыс. вучняў, у агульнаадукацыйных ліцэях — 11 тысяч, а ў прафесіянальных школах — амаль тройчы столькі. Нашы мясцовыя вышэйшыя школы выпусцілі ў свет 164 інжынераў і 131 лекара. Аб нашым здароўі пад канец мінулага паўгоддзя г.г. клапаціліся на Беласточчыне 1583 лекары.

Можна было б яшчэ прадаўжаць гэтую музыку лікаў. Аднак усіх і так ніхто не запамятае. Дык дастаткова. Ужо гэтыя, тут прыведзеныя лікі паказваюць, што мы мінулае паўгоддзе не праспалі, што кожны ў нас на сваім пасту працы дакладаў сваю скромную цаглінку да агульнага дабрабыту.

**Віктар Рудчык**




(Пачатак у папярэднім нумары)

У 1518 годзе ўзнікла ў Крынках падарожная станцыя, а ў Нарве — на чатыры гады раней. Рух на каралеўскім шляху павялічыўся, з Польшчы ў літоўскае княства і наадварот. Прыблізна ў тым жа часе ўзмацнілася каланізацыя Крыншчыны, яе масавае засяленне, у чым вялікую ролю адыграў літоўскі элемент з занёманскіх ваколіц. Усё, што па ім засталося да нашых дзён, гэта назвы некаторых вёсак (Шудзялава, Уснар), або некаторыя літоўскія словы, прынятыя беларускай мовай (кумпяк, рэзгіні, крушня, паршук, кіндзюк і іншыя). Засталіся таксама і прозвішчы часамі цалкам зменены на славянскі лад, як Снарскі, Жамойда, Зувальскі, Куклік, Скроўба, Путка, Кішкель, Заграеўскі, Карвель, Нарэль, Неваль, Трэйга, Янушка, Дзядэль і т.п. Вельмі праўдападобнае тое, што каланізацыйны рух разгарнуўся за прычынаю гарадзенскага старасты Юрыя Радзівіловіча — з пазнейшых князёў Радзівілаў. У іх рукі перайшоў двор каралеўскі пад Крынкамі, што знаходзіўся хіба ў ваколіцы цяперашніх Акопаў, дзе ёсць астаткі даўняга палацыка. Аб актыўнасці Радзівіловіча на Крыншчыне можа сведчыць нядаўна знойдзены і расчытаны дакумент, падпісаны каралём Зыгмантам Старым падчас ягонага знаходжання ў Вільні 25 ліпеня 1522 года. І так: кароль зацвердзіў Юрыю Радзівіловічу права на збудаванне касцёла і ўстанаўленне парафіі ў «каралеўскім горадзе Крынкі», якія дагэтуль належалі да парафіі ў Адэльску. Свежаўстаноўленай парафіі Радзівіловіч прыдаў пакінутыя землі — Лідоўшчына, Крысталёўшчына, Дзеразоўшчына, Мілейкоўшчына і Будзвідзоўшчына, на якіх заснавана вёску Плебанава (Плебаншчыну), уласнасць плебаніі. Апрача таго, прыдана вольную (пакінутую) карчму. Можна меркаваць, што ўстанаўляючы асобную парафію Радзівіловіч меў на ўвазе не толькі забеспячэнне рэлігійных патрэб іншавернага літоўскага элементу. Парафія ў тыя часы зазвычай з'яўлялася арганізатарам таксама гаспадарчага ажыўлення, аб чым сведчыць дзейнасць ужо добра абжытай на дзесяткі год раней праваслаўнай парафіі ў Крынках, устаноўленай праўдападобна каралём Аляксандрам.

На заканчэнне яшчэ некалькі новых даных і меркаванняў. Апошні з каралеўскай дынастыі Ягайлавічаў, Зыгмант Аўгуст, даючы магдэбургскія правы Крынкам зазначыў, што звальняе крынчан ад падаткаў за будаўляныя пляцы, каб мяшчане мелі за што ставіць добрыя дамы. Пэўна датычыла гэта і прадмесцяў Крынак, падмяшчан, якімі лічыліся тады Лапічы, Піражкі, Вострава — цяпер Паўднёвае і Паўночнае, што знаходзілася... «в обрубе местском кринковским». Крынчане, відаць, цяжка падымаліся ад страшнага голаду, які не так вельмі даўно лютаваў на Гродзеншчыне і ў сярэдняй частцы Княства, на Віленшчыне. З тэкста прывілею досыць выразна вынікае, што кароль падпісаў яго дзякуючы захадам пісара і падскарбнага вялікага княства Літоўскага Саўрына Вайны. У літоўскі скарб ішлі грошы за выкупы месцаў на продаж тавараў у торговыя дні, у суботы. Таргі на чацвер зменена ў Крынках праз амаль сто год пасля на моцы прывілею караля Уладзіслава IV. (1636 г.?)

Зімою 1706 года, 12 студзеня, шведскі кароль Карл XII са сваім галоўным корпусам прайшоў за 12 гадзін дарогу ад Заблудава ў Крынкі. Тут заняў усе хаты і будынкі для хворых салдат, а сам з войскам кватэраваў ... «пад шалашамі ноч, дзень і ноч». Назва вуліцы Акопы (акапацца?) можа паказаць на сувязь яе з пабыўкай Карла XII у час паходу супраць Пятра I Вялікага.

Пры аказіі хачу падаць істотнае выясненне: цалкам ужо пэўнае тое, што гарбарныя майстэрні паявіліся тут пасля 1880 г. Гарбарная прамысловасць прыцягнула масу рабочай сілы, лік насельніцтва Крынак хутка павялічыўся да 10 тысяч асоб у 1914 г. Раней, да 1880 года, існавалі тут толькі тэкстыльныя мануфактуры, якія закончыліся банкроцтвам. «Ніва» шукае арыгінальных дакументаў, з якіх можна было б даведацца аб пачатках прамысловага руху ў Крынках XIX ст.

У тым месцы хачу падзякаваць Ежы Гуткоўскаму з Галоўнага архіва даўніх актаў у Варшаве за дапамогу, якую аказаў мне ў зборы матэрыялаў да гэтага артыкула.

**Сакрат Яновіч**

З запісак пешахода




Пажар успыхнуў а гадзіне 13[20]. Ваш рэпарцёр наблізіўся якраз да вёскі Нурэц у Сямяціцкім павеце. З вёскі выбегла некалькі жанчын, залажыўшы руку за руку, галасілі на ўсю ваколіцу.

— Гляньце, зноў гарыць! Гэта зноў ад цягніка. Ужо другі раз у адным тыдні. Хай іх чэрці возьмуць з гэтымі паяздамі, як яны ездзяць!

— Столькі страты, столькі страты! Такі густы лес!

— Хутчэй званіць! Бегчы да солтыса, званіць па стражу пажарную.

У агні стаяла ўжо некалькі гектараў нурэцкага лесу. Побач праімчаліся два юнакі з лапатамі: пабеглі туды, дзе ў неба ірваліся клубы чорнага і белага дыму. Пайшоў туды і я.

Прызнацца трэба, што пажар сухога, густога лесу — страшны. Асабліва тады, калі агонь пойдзе паверх лесу, па галінах і каронах дрэў. Сцяна чорнага дыму сягае ў неба, высока, над вяршынямі дрэў злавесна скачуць карычневыя языкі полымя, агонь з шумам і нечаканасцю стыхіі перакідаецца на значную адлегласць, раздаецца ломат і стогн паміраючага лесу. У гэтым усім два нурэцкія юнакі, якія з лапатамі паімчаліся ў самую сцяну агню, выглядалі геройска, але адначасова трагічна, беспадаможна. Дабегшы да краю пажару, яны пачалі закідаць зямлёю нейкі гаручы куст, а вакол шалела ўжо мора агню. Неўзабаве на паляне ў бяспечнай адлегласці ад агню сабралася група людзей, якія на веласіпедах прыехалі з суседніх вёсак... паглядзець на пажар. Падбег да іх мясцовы ляснік, замахаў рукамі ды закрычаў:

— Чаго стаіце, бы на вяселлі!

І тут ляснік кінуў вельмі брыдкае слова. На прысутных гэта падзейнічала: павярнуліся і ад'ехалі, адкуль прыбылі.

— Сто гектараў лесу стаіць у агні! Сто гектараў лесу. І ўсё маладняк! — гаварыў сам да сябе ляснік тонам чалавека, які перажывае трагедыю. Махнуў роспачна рукою і паімчаўся недзе ляснойдарожкай, якая цяпер мела выгляд пякельных варотаў.

На паляну з дыму выбеглі два хлопцы з лапатамі. Адзін, з акрываўленым носам тлумачыў:

— Быў бы затрымаў, каб агонь не пераскочыў і не пачало гарэць ззаду... Ледзь уцёк...

— Не хапае паветра! — талкаваў другі, расціраючы вочы, поўныя сажы і слёз. — Разумееш. Там не хапае паветра і лёгка можна задушыцца.

Людзей прыбывала. Быццам мурашкі, у адзіночку, без каманды і ўсялякага кіраўніцтва кідаліся, дзе хто мог ратаваць лясное багацце. Загулі пажарніцкія сірэны і пачалі з'язджацца пажарныя каманды. Каля трэцяй гадзіны было тут людна, бы на фэсце. Прыехала каля пятнаццаці пажарных каманд, войска, збегся народ з акалічных вёсак. Пажар пачаў выгасаць. Ратаванне лесу надалей аднак адбываецца па прыкладу ратавання мурашніка. Адсутнічае зусім якое-небудзь адзінае кіраўніцтва акцыяй, адсутнічае якая-небудзь сістэма сігналізацыі і пераказу інфармацыі. Нават звычайнае пажарніцкае «Вада-наперад!» і «Вада-стоп!» глохне ў шуме лясного пажару і матор водапомпы пачынае працаваць на ўсю пару якраз тады, калі павінен заціхнуць.

Ніхто толкам не ведае, дзе ўжо пажар зусім патушаны, а дзе пагражае ён новай успышкай.

Нічога дзіўнага, што каля паловы чацвертай, на вачах соцень людзей і звыш дзесятка пажарных каманд пажар успыхнуў з новай сілаю. У лесе зноў зашумела.

— Па ваду! Хутка па ваду! Заварочвай машыну! — закрычаў камендант пажарніцкай каманды на шафёра пажарнай машыны.

Чытач уяўляе сабе, як шафёр мігам ўскочыў у кабіну і пасля некалькіх секунд машына была ўжо на поўным ходзе.

А дудкі! Так бывае толькі на тэлевізійных кінафільмах. У лесе інакш.

— А на чорта там вылілі воду?! Ну па халеры было там ліць ваду, скажыце? Не казаў, што пакіньце! — крычыць у адказ шафёр тонам упэўненасці, што яго тут верх і рацыя.

— Я вам кажу зараз жа ехаць па ваду. Не вашая ў тым справа, дзе ліецца. Вам плацім і рабіце, што вам кажам, бо інакш... — камендант кідае на вагу апошні свой аргумент. Шафёр аднак, здаецца, яшчэ не пераканаў, што па ваду абавязкова трэба ехаць.

— Вы мне плаціце... — гаворыць, аднак ужо зніжаным крыху голасам. —

 

# БЕЛАРУСКІЯ СТАРОНКІ Ў „POEZJI“

У чэрвеньскім нумары польскага паэтычнага журнала «Паэзія» была змешчана вялікая падборка вершаў беларускіх паэтаў БССР.

І так, у шостым нумары месячніка «Паэзія» надрукаваны вершы Максіма Багдановіча, Максіма Танка, Пімена Панчанкі, Аляксея Пысіна, Рыгора Барадуліна, Дануты Бічэль-Загнетавай. Пераклаў іх на польскую мову Ян Гушча. З асаблівым петызмам (гэта адчуваецца) зроблены пераклады вершаў Максіма Багдановіча, зоркі першай велічыні ў нашай тагачаснай паэзіі, бляск якой трагічна абарваўся. Зрэшты, паэзія Багдановіча цалкам запаланіла паэтычнае ўяўленне найлепшага ў сучасны момант перакладчыка беларускай паэзіі ў Польшчы.

Дасканала напісаны ім уступ. Ян Гушча, сардэчны і кроўны папулярызатар беларушчыны ў нашай краіне, у кожнае слова сваё ўклаў шмат інфармацыі, перажыванняў, сімпатыі.

**С. Яновіч**

## ЭТНАГРАФІЯ



**Шчыт хаты С. Бакуновіча з Паўднёвага Вострава ў Сакольскім павеце.**
**Фота Цаф — Сянько**

Нічога, што плаціце, але ў агонь з машынаю не паеду.

Не спяшаючы завёў машыну і ўсё ж такі паехаў. Не ў агонь, зразумела, а мабыць, па ваду.

Пажар патушаны. Пажарнікі з Вулькі Нурэцкай пачалі дзелавую гутарку з прадстаўніком павятовай пажарнай каманды. Пажарнікі з Вулькі прыехалі на пажар трактарам, на прычэпах якога прывезлі дзве прыгожыя, памаляваныя на чырвона вадапомпы. Вадапомпаў зразумела, не здымалі з прычэпаў. Бо які сэнс цікавіцца вадапомпай у лесе, дзе вадаёмаў шукаць трэба за дзесяткі кіламетраў. Пажарнікі з Вулькі павыломлівалі сабе галінкі ды тушылі імі лес, а больш за ўсё бараніліся ад дыму, які, як самі ведаеце, вельмі грызе ў вочы. Цяпер пажарнікі тлумачаць прадстаўніку павета:

— Ну як будзеш ратаваць? Што зробіш голымі рукамі. Патрэбныя нейкія прылады.

— Так, слушна, — згаджаецца прадстаўнік павета, — слушная заўвага. Патрэбныя лапаты.

— І сякеры, — дадаў нехта з вулькаўцаў.

— Слушна, — згаджаецца і на гэта ўлада. — Патрэбныя лапаты і сякеры. Трэба будзе аб гэтым падумаць.

Згаджаецца з гэтым і ваш рэпарцёр: слушна, падумаць трэба!

**У. Паўлючук**

# ШТО ВЫ НА ГЭТА?

Ніжэй падпісаны не быў непасрэдным назіральнікам сёлеташняга фестывалю польскай песні ў Аполі. Сачыў за яе фестывалем, гледзячы тэлевізійныя або радыёвыя справаздачы. Сёння хачу выразіць некаторыя адчуванні, звязаныя можа не столькі з актуальным узроўнем і дасягненнямі польскай песні, колькі з абліччам нашай моладзі. На апольскім фестывалі ў агромнай большасці выступалі ж іменна 18 і 20-гадовыя юнакі. Думаю, што гэты фестываль даў перад усім педагогам і выхаваўцам многа матэрыялу да роздумаў.

Сустрэцца з сучаснай польскай песняй даводзіцца нам амаль штодзённа ў тэлевізійных «Гелдах пёсэнкі» або ў папулярнай радыёперадачы «Пополудне з млодосцён» і перад фестывалем у Аполі. Зрэшты, на што гэта? Няма зараз на нашай вёсцы ніводнай вечарыны ці «забавы», дзе не гучэлі б словы і мелодыі сучасных польскіх маладзёжных песень. Просьбамі друкаваць словы і ноты песень папулярных польскіх маладзёжных калектываў закідана рэдакцыя «Нівы» і іншыя газеты. Нядаўна быў я сведкам, калі звычайная вясковая жанчына дапытвалася ў новым доме таваровым аб пласцінцы «Чырвоных гітар» і купіла яе.

Успамянутая жанчына — гэта пакуль што выключэнне. Часцей усяго чуюцца словы: гэта ніякая не музыка, а нармальныя візгі. Выключаецца радыё, калі выступаюць «Скальдове» ці «Брэкаўт». Неаднойчы ўздыхаючы гаворыцца: «Даўней, вось гэта была музыка! Калісь дык былі песні!»

Часта збіраемся, вядзем дыскусіі аб моладзі, аб яе безідэйнасці, злуемся на доўгавалосых, на гітары. Гаворым, што сённяшняя моладзь характарызуецца цынізмам, абыякавасцю, што не жывуць тым, што для нас было і ёсць гэтакае важнае, дарагое і блізкае.

Паспрабуйма аднак дакладней прыслухацца іх песням, што хвалюе гэ-






**«На эстрадзе «Алі-бабкі».**

тых хлопцаў у трохі дзіўных уборах, дзяўчат, выглядаючых, як сучасныя русалкі.

Мы асуджаем, злуемся, а яны тым часам спяваюць:

«I na polach Lenino
i pod Monte Cassino
rosła chwała polskiego oręża».
Яны спяваюць:
«...po ten kwiat czerwony,
skoro przyszedł na to czas...»
А яны напамінаюць, што
«był taki czas,
kiedy każdy stawkę swą znał»
і складаюць паклон
«tamtym dziewczynom — w czterdziestym czwartym».

Найбольш узрушаючым і непаўторным на фестывалі быў факт, калі хлопцы «Чырвоных гітар» складаюць букет руж там, дзе

«w szczerym polu biały krzyż
nie pamięta, kto pod nim śpi»,

а ўзрушаным, апладзіруючым на біс гледачам высвятляюць, што песні паўтарыць не могуць з-за сімвалічнасці песні «Бялы кшыж».

Калектывы маладых даказалі, што з'яўляюцца прадаўжальнікамі найвялікшых стваральнікаў музыкі: «Парціта», Марэк Грэхута, Анджэй Зялінскі. Польскія маладзёжныя калектывы поўнасцю карыстаюцца зараз фальклорам. Зразумела, найлепшым прыкладам з'яўляецца тут Пётр Янчэрскі з групаю «Но то цо». Але ж таксама «Трубадужы» атрымалі ўзнагароду за песню «Эй, Собутка, Собутка...», і «Алібабкі», і «Скальдове».

Мы аднак і далей сцвярджаем, што яны пазбаўлены ўзнёслых пачуццяў, мала чым пераймаюцца...

А яны тым часам пытаюць:
«Gdzie jesteś ty wymarzona od lat?»
А ўспамянуты Марэк Грэхута спявае такія лірычныя песні, якіх мабыць дагэтуль наогул не было. Гэта ж яго вусны ахвяруюць
«za smutek mój, a pani wdzięk — pęk czerwonych melancholii...»
і пытаюцца з дзіцячай прастатой
«czy to jest przyjaźń, czy to jest kochanie?»

Гэта мы думаем пра іх, што ім у галаве толькі непаважныя справы. А яны спяваюць «Za nasz spokojny dom, za życie matek, żon» і марацц аб часах, «gdy zatopimy w morze hełm» і просяць: «Przyjedź mamo na przysięgę».

І гэта тая крыклівая бессэнсоўная музыка і песня? Нельга згадзіцца з такім сцвярджэннем. Трэба проста ўслухацца ў змест слоў гэтых песень і прыпомніць, што гэта яны, доўгавалосыя, часта з'яўляюцца стваральнікамі іх, каб зразумець агромную выхаваўчую ролю гэтага рэпертуару.

Аб факце вялікага ўнутранага запатрабавання ў беларускай моладзі на Беласточчыне на сучасную польскую маладзёжную песню трэба таксама памятаць пры вядзенні культурнай дзейнасці.

З прыемнасцю, а мо і з захапленнем, быў бы прыняты факт стварэння клубаў сучаснай песні, якія прапагуе «Штандар млодых», а на гэтай аснове стварыць беларускі калектыў сучаснай песні, навязваючы да беларускага фальклору. Што Вы на гэта?

**А. Карпюк**

# СПУЛДЗЕЛЬНЯ „ПОСТЭМП“

Спулдзельня інвалідаў «Постэмп» у Гайнаўцы ў мінулым годзе атрымала новапабудаваны будынак, які каштаваў 7,5 мільёнаў злотых. Працуе там больш за 320 чалавек, у тым ліку 78% інвалідаў. Дзякуючы добраму кіраўніцтву, а перш за ўсё таленавітаму дырэктару Аляксею Шчуку, прадпрыемства прыносіць вялікія даходы. Напрыклад, у мінулым годзе чысты даход спулдзельні складаў суму 1224 тыс. зл.

Спулдзельня прадукуе ў асноўным адзенне. Пачынаючы ад 1966 года многа рабочага адзення прадукуецца на экспарт.

І так, напрыклад, у 1967 годзе на экспарт, у асноўным для ГДР, выпрадукавана тут 37 тысяч штук рабочага адзення, а ў 1968 годзе — 50 тысяч.

Спулдзельня заўсёды выконвае план. За паўгоддзе 1969 года асягнуты тут чысты даход на суму 640 тысяч зл.

Да гайнаўскай інвалідскай спулдзельні, сядзіба якой знаходзіцца на вуліцы Варшаўскай 59, належаць трыкатажныя прадпрыемствы ў Гайнаўцы і Белавежы. У Гайнаўцы прадукуюць блузкі, райтузы і світры, а ў Белавежы — райстопы для дзяцей.

Варта тут сказаць аб тым, што на гэтым прадпрыемстве людзі добра зарабляюць. Найбольш працуе тут жанчын. Найніжэйшая іх зарплата не бывае менш 1500 зл. А многія зарабляюць больш 2000 зл. і нават па 3000 зл.

Успомненая інвалідская спулдзельня мае ў павеце 6 сваіх крамаў: тры ў Гайнаўцы і па адной — у Белавежы, Нарве і Кляшчэлях. Неабходна падкрэсліць і тое, што дырэктар спулдзельні Аляксей Шчука мае вялікую грамадскую нагрузку. Ад імя экзекутывы Павятовага камітэта ПАРП ён адказны за партыйную працу ў ГРН Дубічы Царкоўныя. Другую кадэнцыю з'яўляецца ён народным суддзёй-лаўнікам Бельскага павятовага суда. Апрача таго, залічваецца ён да самых актыўных дзеячаў Гайнаўскага аддзела БГКТ. Выконвае ён там функцыю члена прэзідыума аддзела.

**М. Хмялеўскі**
**фота Цаф — Сянько**



**Напраўшчык швейных машын Пётр Антыпаў.**



**Марыся Каліноўская шые нагавіцы.**



**Прадукцыйная зала № 2.**



 

## Карысныя парады

Замарожанае мяса не трэба адтайваць, а толькі памыць халоднай вадой і адразу класці ў каструлю, бо яно страчвае свае спажыўныя ўласцівасці.

✲

Каўбасу ад цвілі можна захаваць, калі змачыць яе ў моцным растворы солі.

✲

Дываны і дарожкі не будуць слізгаць па падлозе, калі з левага боку па краю да іх прышыць невялікія кавалачкі гумы.

✲

Калі гатуеце хатні тварог, каб ён не гарчыў, дадайце да малака, з якога вы робіце тварог, дробку солі.

✲

Перад тым, як насыпку падушкі напоўніць пухам, яе трэба змачыць у гарачым мыльным растворы і высушыць, не спаласкваючы. Пасля гэтага насыпку прасуюць не вельмі гарачым прасам. Лепшая тканіна для падушак — паркаль. Мыла для гэтай мэты трэба браць добрых гатункаў, пажадана туалетнае.

✲

Бялізне з дапамогай солі можна надаць асаблівы бляск. Для гэтага пасля мыцця бялізну апошні раз палошчуць у падсоленай вадзе. Выпрасаваная бялізна будзе блішчэць.

✲

Калі фарбы на вашым дыване пабляклі, пачысціце дыван шчоткай, змочанай у салёнай вадзе (добра да яе дадаць яшчэ і крыху лімоннага соку.). Пасля таго, як дыван выб'еце, фарбы яго стануць зноў свежымі.

✲

Калі тушка курыцы або дзічыны, якую вы абсмажваеце ў духоўцы, моцна падрумянілася, але яшчэ не татова, яе трэба пакрыць зверху кавалкам пергаментнай паперы, змазанай тлушчам.

## НАСТУПЛЕННЕ НА МОРА

Упраўленне будаўніцтва партаў японскай прэфектуры Асака распрацоўвае план стварэння двух штучных астравоў агульнай плошчай каля 13 тысяч гектараў у Асакскім заліве.

Распрацоўка гэтага плана адваявання ў мора значнай плошчы выклікана дзвюма асноўнымі прычынамі. Па-першае, порты, што знаходзяцца ў Асакскім заліве, у тым ліку Асака і Кабэ, аказаліся не ў стане своечасова абслугоўваць судны з-за рэзкага павелічэння колькасці грузаў, што паступаюць у гэты раён мора. Па-другое, за апошнія гады значна ўзрасло насельніцтва партовых гарадоў у гэтым заліве.

Аб грандыёзнасці гэтага плана наступлення на мора можна меркаваць па некаторых папярэдніх праектных лічбах. Стваральнікам штучных астравоў прыйдзецца скінуць у мора звыш чатырох мільярдаў кубічных метраў грунту і камення. У жылых дамах мяркуецца рассяліць да паўтара мільёна чалавек (агульная колькасць насельніцтва горада — порта Кабэ, напрыклад, складае цяпер звыш 1200 чалавек).




Насуперак рэкламам авіякампаніі, якія сцвярджаюць, што дзякуючы іх самалётам адлегласці паміж Еўропай і Амерыкай скарачаюцца, шырыня Атлантычнага акіяна не змяншаецца, але, наадварот, узрастае. Аб гэтым ужо даўно сведчаць шматлікія геаграфічныя даныя, а нядаўна з'явіўся новы доказ, які красамоўна пацвярджае тэорыю ссоўвання мацерыкоў.

Каля 200 мільёнаў гадоў назад, сцвярджаюць вучоныя, еўрапейскі і амерыканскі кантыненты складалі адзіны мацярык. Затым ён «раскалоўся», і абедзве яго часткі паступова аддаліліся адна ад другой. Са свайго боку геолагі ўстанавілі, што падводны горны ланцуг, які падзяляе атлантычны акіян з поўначы на поўдзень, з'яўляецца іменна той лініяй, ад якой разыходзяцца абедзве часткі калісьці адзінага мацерыка. Сапраўды, гэта два блізка размешчаныя адзін ад аднаго горныя ланцугі, якія падзяляюцца далінай і вызначаюцца актыўнай вулканічнай дзейнасцю. Спецыялісты навуковага Цэнтра даследаванняў і развіцця амерыканскай кампаніі Джэнерал электрык і канадскай Джыаладжыкэл Сарвей оф Канада вырашылі вызначыць узрост горных парод, здабытых у наваколлі падводнай даліны. Дэпартамент геалогіі і энергетычных рэсурсаў Канады арганізаваў акіянаграфічную экспедыцыю, вынікі якой былі апублікаваны ў мінулым годзе ў Вашынгтоне. Горнай пародзе, здабытай v цэнтры даліны, было ўсяго 13.000 гадоў, а кавалку пароды, здабытай на адлегласці 6,5 км на ўсход ад першай — 290.000 гадоў; каменю з адной з вяршынь падводнага горнага ланцуга ў 16 км ад цэнтра даліны — 740.000 гадоў і, нарэшце, узрост абломка, здабытага на адлегласці 60 км ад цэнтра на другім баку ланцуга, — 8 мільёнаў гадоў... Вызначэнне ўзросту здабытых горных парод ажыццяўляецца з дапамогай тэхнічнага метаду, які распрацаваны кампаніяй Джэнерал электрык у 1963 г. Метад грунтуецца на тым, што атамы ўрану пакідаюць ў зямных мінералах у працэсе свайго расшчаплення мікраскапічныя «сляды». Яны выяўляюцца фактычна паўсюдна, пры чым яны тым больш шматлікія, чым больш старажытныя горы, і падлягаюць дакладнаму вымярэнню ў межах перыяду ад 10.000 да мільярда гадоў.

Гэтыя розныя даныя — больш «маладыя» пароды ў цэнтры, больш «старыя» па краях даліны — супадаюць з гіпотэзамі вышэй прыведзенай тэорыі. Вучоныя тлумачаць ссоўванне мацерыкоў (прыблізна, з хуткасцю 2,5 см у год), з'явамі канвекцыі ўнутры зямной мантыі, у выніку якой расплаўленыя масы зямных нетраў (што і сведчыць аб іх «маладосці») выносяцца на паверхню ў раёне цэнтральнага ланцуга.




«Найлепшы футбаліст усіх часоў», «Ногі пантэры, сэрца льва» — так усе газеты свету называюць жамчужыну сусветнага футболу — Пэле. Сёння яму ўжо каля 30 гадоў. Але пачынаў Пэле сваю спартыўную кар'еру вельмі рана. Бацька яго быў футбалістам і граў у класе «С». Ужо чатырохгадовым хлапчуком малы Эдсан (псеўданім Пэле ён прыбраў ужо будучы футбалістам) гуляў сшытым зануч мячом. Калі падворкавая футбольная каманда хлапчукоў, дзе ён іграў, заняла першае месца ў «Турніры босых ног», спецыялісты звярнулі на яго ўвагу і прынялі ў футбольны клуб, а пазней, ужо 15-гадоваму Пэле запрапанавалі пераехаць у вялікі горад. Тады ён падпісаў кантракт, які сёння называюць найбольш выгадным пагадненнем у гісторыі спартыўнага клуба.

Ужо ў першым чэмпіянаце Бразіліі 17-гадовага Пэле назвалі каралём нападаючых (ён забіў тады ў вароты праціўнікаў 37 голаў). Малады негр у чорна-белай кашулі з нумарам 10 становіцца гразою варатароў. У 1958 годзе яго ўключаюць у першую сборную краіны на сусветны чэмпіянат. Перад матчам з СССР да Пэле падышоў яго трэнер і сказаў: «Настаў вялікі дзень, Пэле. Уся Бразілія з табой!»

Ён выбег на поле і... слаўны Яшын быў вымушаны вымаць мяч з варотаў. Потым, дзякуючы Пэле, выйгралі з Францыяй (ён забіў тры голы), з Валіяй, Швецыяй.

У Рыо сустракалі яго надзвычай сардэчна. Калі паявіўся над аэрадромам самалёт з футбалістамі, дзесяткі тысяч сімпатыкаў выйшла на вуліцы. Маніфестацыя радасці прайшла на галоўную вуліцу горада і працягвалася да позняга вечара. А мястэчка, дзе нарадзіўся Пэле, падарыла яму дом і аўтамашыну.



Фенаменальнаму футбалісту сыпаліся прапановы кантрактаў з розных клубаў свету: «Даем столькі грошай, колькі яшчэ ніхто не плаціў за футбаліста ў Бразіліі», — прапанаваў канкурэнцыйны клуб. «Хочам мець Пэле, — тэлеграфаваў дырэктар фінансаў мадрыдскага «Рэалю». — Даем 100 тыс. долараў»: «Прапануем 250 тыс.», — пісалі дзеячы «Інтэру» з Мілана.

Але адказ быў адзін: Пэле бясцэнны. Няма такой сумы, каб рэкампенсавала яго страту. Але прэзідэнт Куадрас на ўсялякі выпадак падпісаў дэкрэт аб забароне пераходу бразілійскіх футбалістаў у клубы Еўропы.

А тым часам чарадзей мяча біў усе рэкорды папулярнасці. У Эквадоры яго віталі дэманстрацыяй, несучы яго партрэты ў натуральную велічыню. Тое ж было і ў іншых краінах Амерыкі.

А ён адчуваў сябе звычайным хлопцам. Піў толькі малако, сокі і каву і страляў голы пад акампаніямент апладысментаў у сваёй краіне. За перыяд 1958—1963 гадоў ён забіў 500 голаў, а свае ногі застрахаваў на 60 тыс. долараў. Апошняй была прапанова з Італіі — падпісаць кантракт ужо за паўтара мільёна долараў.

Але Пэле не згадзіўся. Ён вельмі любіць футбол, але адмовіўся выступаць у міжнародных спаборніцтвах. Прычынай былі вельмі частыя бойкі на полі. Заядлыя праціўнікі ведалі, што хопіць вывесці з ігры Пэле, каб мець перамогу. Таму яны прымянялі недазволеную, але пэўную тактыку — пазбыцца небяспечнага саперніка. Каманда чэмпіёна свету не магла з гэтым згадзіцца. У іх краіне футбол трактаваўся інакш.

Цяпер Пэле ажаніўся, выхоўвае дачку і далей здзіўляе ўсіх сваёй непаўторнай тэхнікай футбаліста. (Я)




### АПОШНІ КРУГ

Ёй перадалі: сёння ўвечары зойдуць па медыкаменты. Скажуць пароль...

Ішоў кастрычнік сорак трэцяга. Яна сядзела ў сваім маленькім пакойчыку па вуліцы Чкалава, цьмяна тарэла газоўка, ёй было холадна, яна павязалася накрыж старой хусткай і нецярпліва паглядала ў акно. Няхай бы хутчэй прыйшлі, хутчэй! Сёння такі цяжкі быў дзень... Яшчэ на досвітку пайшла да немца-загадчыка аптэкі, купіла лякарствы (немец меў прыгожую каханку, не шкадаваў для яе грошай і ахвотна пастаўляў «спекулянтам» любыя медыкаменты). Падпольшчыкі выкарысталі і гэты канал, балазе бяспеку аперацыі гарантаваў сам немец. Вось каб ведаў ён, куды зараз пойдуць яго медыкаменты!.. Потым прыбірала на сваёй тарнай базе, потым яшчэ хадзіла на край горада папярэдзіць падпольшчыкаў, у якіх былі ракетніцы, дзе запаліць «свяцільнікі», калі прыляцяць нашы самалёты.

Такі доўгі-доўгі дзень. І вечар доўгі... А недзе на другой кватэры, сумуе без мамы яе Наташка... Недзе на трэцяй — Косця, муж, член бюро падпольнага гаркома, «Катай» — Грыгор'еў. Раскідалася іх сям'я па ўсім горадзе, разам жыць небяспечна. І ў такія цёмныя восеньскія вечары за кожнага трывожна ные сэрца — і за мужа, і за дачку... Няхай бы хутчэй прыйшлі партызаны па медыкаменты, хутчэй бы заваліцца ў ложак, далей ад дзённых небяспечных спраў і вячэрніх неспакойных думак.

Крокі па двары, на ганку, ля дзвярэй... Нарэшце! Двое хлопцаў у скураных куртках увайшлі ў пакой. Усміхаюцца. Яна ўсміхаецца ім таксама. Вось-вось яны павінны сказаць пароль... Чаго цягнуць, чаго маўчаць? Яна ж адна ў пакоі.

— Ну, як справы, Белка?

Што гэта, што гэта азначае? Яна ўсё яшчэ ўсміхаецца, маўчыць, усё яшчэ спадзяецца: вось, вось назавуць пароль. Але... не, яны ўжо не ўсміхаюцца, яны ўхмыляюцца, і гэтак злавесна, гнусна.

— Дык як жа цябе завуць на самай справе, Белка? Кашычкіна? Ты і ёсць доктар Людміла Кашычкіна, мы не памыліліся?

Не памыліліся... Імгненне — і адзін з іх ачапіў яе рукі жалезнымі ланцугамі.

— Вызвалі адну руку, — сказаў другі, — няхай апранецца.

Накінула на плечы сваю нязменную ватоўку і пайшла. Пайшла падпольшчыца «Белка» насустрач свайму лёсу.

Турэмнае хрышчэнне пачалося адразу, з ходу. Без допытаў, без усякіх папярэдніх размоў, авансам, білі плёткай, нагамі, білі па галаве, па плячах, па жываце. Потым акрываўленую, ледзь жывую кінулі ў камеру. Чыесьці добрыя рукі абцёрлі кроў, падклалі пад галаву нешта мяккае. Незнаёмыя жаночыя галасы пыталіся:

— За што цябе?

— Не ведаю.

...Кожны звычайны чалавек можа стаць героем. Кожны звычайны чалавек можа вытрымаць катаванні і не выдаць сваіх паплечнікаў па барацьбе, застацца верным сваёй ідэі, сваёй Радзіме. Так вучылі нас з дзяцінства. Так вучым і мы сваіх дзяцей. І звычайныя людзі — жыццё, факты, гісторыя, асабліва гісторыя Вялікай Айчыннай вайны яскрава паказалі гэта — звычайныя людзі сапраўды ўздымаліся на самую высокую вяршыню мужнасці і цвёрдасці духу, сілы характару. І ўсё ж... усё ж сустрэча з чалавекам, які ўсё вытрымаў, якога зламалі, але не сагнулі (а Кашычкіну зламалі ў літаральным сэнсе слова: перабілі ёй хрыбет), неадступна выклікае ўсё тое ж пытанне: што ёсць асаблівага ў табе, калі ты ўсё вытрываў?

Высокая, тонкая, светлавалосая. Такая была яна ў тыя дні. Дзіцячы ўрач па прафесіі. Прыемны мілы твар, ніякай «звышсілы» і «звышхарактару» ў яго рысах няма. І вочы таго светла-блакітнага колеру, які спрадвеку лічыўся сімвалам жаночай пяшчотнасці і душэўнай дабраты. Дзе ж прытаілася «тое», асаблівае?

...Першы допыт. Яе прывялі ў пакой, паставілі тварам да сцяны, потым загадалі павярнуцца.

— Ты ведаеш гэтую жанчыну?

Распластаны на падлозе чалавек ледзь прыўзняў павекі.

— І ты тут! І ты... — неспадзявана вырвалася ў яго. І тут жа ён схамянуўся, пачаў гаварыць што папала, толькі б не выдаць, не заблытаць яе.

— А ты, — пытанне да яе, — ведаеш гэтага чалавека?

— Першы раз бачу!

Зноў білі. Той самай плёткай, што вісіць цяпер у музеі, — бычыны хвост з кавалкам волава на канцы. Білі нагамі ў жывот, па печані, па хрыбце. Выцягнулі з пакоя і кінулі ў карцар.

Вузкі, як шафа, амаль па калена заліты ледзяною вадой, карцар павінен быў стаць для яе апошнім месцам на зямлі... Колькі часу без памяці ляжала яна на падлозе? І, пэўна, так і не апрытомнела б, калі б раптам недзе побач не пачуўся страшэнны, нечалавечы крык. Яна пазнала, ці здалося ёй, што пазнала гэты голас: голас Мікалая

# ТРЫБУНА чытачоў

## У НАРАЎСКАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ

Грамадская бібліятэка ў Нараўцы (Гайнаўскі павет) налічвае каля 6 тысяч кніжак. Мае яна 310 сталых чытачоў. Да яе належаць восем бібліятэчных пунктаў: Плянта, Масева I, Масева II, Альхоўка, Міклашэва, Забалотчына, Скупава і пункт нараўскай станцыі ЦПН, у якіх налічваецца па 500 кніжак. На пунктах выпазычаюць кніжкі 106 асоб.

Штогод на пакупку новых кніг ГРН у Нараўцы прызначае 4—5 тысяч злотых, так што бібліятэка забяспечана выдавецкімі навінкамі. За тэтым сочыць бібліятэкар Зыта Савіцкая.

У невялікім памяшканні бібліятэкі новае абсталяванне, на рэгалах вылажана прэса — 28 загалоўкаў. Знойдзем тут «Палітыку», «Культуру», «Дзеннік Людовы», «Зажэве», «Кантрасты» (беластоцкія), «Газету Беластоцкую», «Ніву», «Пломык», «Пломычэк», рускія часопісы «Праўду», «Савецкі Саюз», «Агамёк» і г.д.

На полках ляжаць новазакупленыя кнігі. Сцены ўпрыгожваюць актуальныя насценгазеты. Мясцовыя ўлады павінны аднак у бліжэйшым часе мець на ўвазе тое, каб перанесці бібліятэку ў больш прасторнае памяшканне, бо цяперашнія памяшкальныя ўмовы недастатковыя.

**Я. Цялушэцкі**

## ЛЕТНІ АДПАЧЫНАК

Прыемна адпачывала ЗМВ-оўская моладзь з Беластоцкага ваяводства ў прыазёрнай маляўнічай ваколіцы Старых Юхаў каля Элка. Жылі ў палатках. На пляцы прыгожая дэкарацыя перад кожнай палаткай. Побач на беразе ракі каякі, якімі карыстаецца моладзь, калі ўсе забіраюцца да возера паплываць і пазагараць на сонцы. Непадалёку знаходзіцца спартыўная пляцоўка, дзе хлопцы і дзяўчаты гуляюць у валейбол і футбол. Тут адбываюцца і спаборніцтвы лагернай каманды з камандамі Старых Юхаў. У лагеры адбываюцца цікавыя сустрэчы, як, напр., з прадстаўнікамі рэдакцыі «Край Рад», «Газеты Беластоцкай», з кіраўніцтвам Ваяводскага праўлення ЗМВ і г.д.

Нядаўна ўдзельнікі маладзёжнага лагера, падрыхтавалі вечарыну, на якую запрасілі моладзь з Старых Юхаў. Вечарына адбылася ў мясцовай прасторнай святліцы. Спачатку ЗМВ-оўцы выступілі з мастацкай часткай. А потым адбыліся супольныя танцы. У вольны час моладзь, у тым ліку і вясковая, аглядае кінафільмы, чытае прэсу, кніжкі, знаёміцца і дзеліцца сваімі вопытамі ў працы ЗМВ.

**Ц. Янушэўскі**
**Старыя Юхі**

## СПОРТ

Амаль кожны дзень пасля абеду збіраюцца на пляцы каля будынку прэзідыума ПРН у Гайнаўцы маладыя хлопцы з лукамі.

У іх трэніроўка на ўспамянутай галіне спорту. Вынікі добрыя. Моладзь з Гайнаўкі любіць спорт.

**Янка Цялушэцкі**

## РЭЙД ПА БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ

20 ліпеня г.г. Праўленне аддзела Лігі абароны краіны ў Гайнаўцы арганізавала матацыклавы рэйд шляхам баёў за Белавежскую пушчу. Удзельнікі рэйду ўквецілі магілы партызанаў і салдат, якія загінулі ў апошняй сусветнай вайне. Магілы такія знаходзяцца непадалёку вёскі Арэшкава. Каля Арэшкава адкрыты помнік, прысвечаны паўстанцам з 1863 года. Паблізу пушчанскай вёскі Старына адкрыты помнік на магіле Дзмітра Маскаленкі, сына маршала СССР Георгія Маскаленкі. Дзмітр Маскаленка — лейтэнант Савецкай арміі загінуў у ліпені 1944 года ў змаганні за вызваленне гайнаўскай зямлі ад гітлераўскіх акупантаў. На адкрыццё помніка Маскаленку прыбыла дэлегацыя з БССР. У гэты дзень была адкрытая тут мяжа Польшчы з БССР. Затым матацыклісты ў ліку 56 асоб злажылі кветкі на магіле капрала Людовага войска польскага каля вёскі Буды і ля помніка загінуўшых 40 асоб у асадзе Нараўка.

**Янка Цялушэцкі**
**Новае Ляўкова**




**Дарагое Сэрцайка!**

Мне 22 гады. Жыву на вёсцы і працую з бацькамі на гаспадарцы. У чэрвені я пабывала ў сваёй цёці ў горадзе (была там месяц часу). І там пазнаёмілася з Васем, які таксама з вёскі хлапец, але сезонна працуе ў горадзе. Мне вельмі падабаўся Вася. Мы перапісваемся. Мне здаецца, што я таксама спадабалася Васю (дадумваюся з пісьмаў).

Незадоўга ў нашай вёсцы адбудзецца фэст. У нас будзе многа гасцей. Вельмі хацелася б, каб быў таксама і Вася, але не ведаю, ці выпадае мне яго запрасіць (не лічу яго нарачоным, бо аб гэтым і мовы не было). Як гэта зрабіць? Парай.

**Ліда з Бельшчыны**

**Ліда!** Напэўна выпадае запрасіць Васю, усё роўна, за каго ты яго лічыш — нарачоным ці сябрам. Гэта не мае ніякага значэння. Вася напэўна будзе таксама як і ты ўзрадаваны, бо, як сама пішаш, ты яму таксама падабаешся. Калі будзеш яго бачыць, дык справа з запрашэннем вельмі простая, калі не, тады найлепш будзе выслаць пісьмо на многа раней, бо ён жа працуе і калі гэтае запрашэнне выпадзе на будзённы дзень, яму трэба будзе раней аформіць справу водпуску.

**Жадаю прыемнай сустрэчы**
**Сэрцайка**

## У ЛЕТНІМ ЛАГЕРЫ

Ужо некалькі гадоў Ваяводскае праўленне публічных дарог у Беластоку арганізуе летні лагер у ліцэі ў Гайнаўцы. У гэтым годзе ў ліпені ў лагеры прабывала 140 хлопцаў. У жніўні прыехала сюды 145 дзяўчат, якія падзяліліся на групы: «Стакроткі», «Гномы», «Суніцы» і г.д. Моладзь тут добра адпачывае. У сонечныя дні дзеці загараюць на сонцы, ідуць у лес па ягады або на басейн. Дагэтуль пабывалі яны ў Гайнаўскай малачарні, Гайнаўскім прадпрыемстве драўніннай прамысловасці, знаёміліся з Гайнаўкай, пабывалі на экскурсіі ў Белавежы, дзе наведалі прыродазнаўчы музей і рэзерват зуброў. Удзельнікі лагера вучыліся таксама страляць. Такім чынам шмат асоб здабыло адзнакі МОСО. У лагеры выхавацельніцы і кіраўніцтва лагера арганізавала Дзень Спорту, розныя конкурсы.

Асабліва цікава рыхтавалася моладзь да мастацкай часткі на свята Адраджэння.

Моладзь шмат чытае: кніжкі выпазычалі ў павятовай бібліятэцы ў Гайнаўцы.

Вечарам, у вольны час можна тут часта пачуць спевы і ігру на акардэоне. Гэта моладзь развучвае новыя песні і мелодыі.

Удзельнікі лагера цікава ўдэкаравалі святліцу пушчанскімі рэквізітамі: шышкамі, мохам, галінкамі, цікавымі ляснымі карэннямі і т.д.

У будынку ліцэя зроблены цікавыя насценгазеты.

Асабліва цікава вядзецца лагерная хроніка, якая багатая фотаздымкамі, зробленымі з нагоды розных арганізаваных мерапрыемстваў, актуальнымі штодзённымі інфармацыямі, нават вырэзкамі артыкулаў з прэсы аб сабе. 17 жніўня ў лагеры была арганізавана цікавая вечарына пры кастры. Моладзь выступіла з багатай мастацкай праграмай, а затым адбыліся танцы.

**Янцал**
**Гайнаўка**

## КОЖНЫ КОЛАС НА ВАГУ ЗОЛАТА

Другі этап працы грамадскім чынам ЗМВ-у для адзначэння 25-годдзя ПНР распачаты. Праходзіць ён пад лозунгам «Кожны колас на вагу золата». Моладзь узяла на сябе шэраг абавязацельстваў дапамагчы сялянам у час жніва. Між іншым абавязацельствы такія ўзяла на сябе ЗМВ-оўская моладзь з Гайнаўшчыны. Члены гуртка ў вёсцы Плянта дапамагалі пры жніўных працах сям'і ваенных ахвяр. Дзяцьмі з вёскі Навасады зоймуцца на час жніў члены КГВ і ЗМВ. Гурток ЗМВ пры нараўскім ПОМ-е паскорыць рамонт жніўных машын, якія належаць да сельскагаспадарчых гурткоў і паасобных сялян. Моладзь з вёскі Ваські працуе ў мясцовай спулдзельні прадукцыйнай.

**Ц. Я.**
Нараўка

## ВЯСКОВЫЯ ДЗЯЦІНЦЫ



У ляўкоўскім дзяцінцы.

Гурток вясковых гаспадынь супольна з ГС-амі Акруговай спулдзельні малачарскай, ПЗГС-ам і спулдзельчым банкам арганізавалі ў гэтым годзе ў Гайнаўскім павеце 18 вясковых дзяцінцаў. У дзяцінцах дзеці атрымаюць снеданне, абед і падвячорак. Бацькі могуць спакойна працаваць у полі, бо іх дзеці дагледжаны як след і бяспечна гуляюць пад апекай выхавацельніц. Дзяцінцы працуюць на працягу дзесяці гадзін. Усім дзецям запэўнены розныя забаўкі: лялькі, возікі, конікі, самаходы, скаканкі, мячыкі і г.д. На пакупку забавак грошы даюць сельскагаспадарчыя гурткі. Напрыклад сельскагаспадарчы гурток у вёсцы Навасады прызначыў на гэта 1000 зл. 1 жніўня г.г. пачаў працу дзяцінец у Ляўкове. Штодзень збіраецца тут 25 дзяцей. Грошы на забаўкі (у суме 2 тысяч зл.) прызначыла праўленне аддзела таварыства прыяцеляў дзяцей у Гайнаўцы. Дзяцінцам кіруе настаўнік з Ляўкова Мікалай Бартошук. Дзеці з Ляўкова не толькі добра гуляюць, але і загараюць на сонцы, купаюцца, слухаюць казкі, вывучаюць песні і вершы.

**Я. Цал.**
**Навасады**

---

Шацько, падпольшчыка, які там, на допыце, сказаў: «І ты тут»...

Назаўтра зноў яе пацягнулі на допыт. Усё той жа следчы з шэрымі халоднымі вачыма — яна запомніла гэтыя вочы і яшчэ запомніла гэтыя рукі з тонкімі пальцамі, «як моцна яны білі, гэтыя рукі», — дапытваўся:

— Хто вы? Урач?!

— Я прыбіральшчыца.

І раптам нехта з боку, жанчына, якую нават не заўважыла адразу, жанчына ў белым халаце, у пуховай хустцы на плячах, ласкава так, пяшчотна нават, параіла:

— Скажы ім усё, Людачка. Усё роўна ведаюць. Менш мучыць будуць.

— Якая я табе Людачка, паскуда! Я цябе бачыць не бачыла, ведаць не ведаю!

О не, на жаль... І бачыць яна яе бачыла і ведаць ведала. Гэта была яе даўняя знаёмая, урач, якая зусім выпадкова далучылася да падпольшчыкаў. Яе каханы — а ён быў верны і мужны падпольшчык да самага канца — трапіў у рукі гестапа. Людміла па заданні гаркома партыі спрабавала яго вызваліць. Няўдача... І цяпер гэтая гадзюка расказвае пра ўсё, што ёй вядома... І зноў па свежых ранах — плёткай, ботамі... А тая, у пуховай хустцы, усё расказвае, расказвае...

Людмілу кінулі ў камеру смертнікаў. Там былі яшчэ дзве жанчыны. Адна маладая, другая старэйшая. Хто яны? Не ведае... Там пра сябе ніхто нічога не расказваў. Спачатку наогул маўчалі. На другія суткі крыху пагаварылі пра сваіх дзяцей і зноў маўчалі... Потым чамусьці асабліва часта ўспаміналі лес.

— Вось каб зараз прайсціся па лесе...

— Як там хараша...

Лес, лес... Чаму ты ўспамінаўся жанчынам, асуджаным на смерць? Як сімвал жыцця, вечнага і цудоўнага? Як сімвал Радзімы? Ці як прытулак цішыні, спакою?.. Хто ведае. ...У чалавечай памяці ў такія хвіліны свае дарогі. Чамусьці адна з жанчын, маладзейшая. увесь час успамінала спектакль — «Паўлінку». Камера смертнікаў — і раптам... «Паўлінка». Чаму? Хто ведае...

— У першы дзень мне хацелася хутчэй памерці. Так балела ўсё цела, што толькі смерць здавалася ратункам... На другія суткі ўвесь час перад вачыма стаяла дачка, Наташка... І так шкада было яе пакідаць, так горка...

Людмілу выклікалі першай. Тут ведалі — куды, сумненняў не было. Жанчыны кінуліся да яе, моцна абнялі; ніхто не плакаў: трымаліся.

На турэмным двары ля душагубкі стаяла з падносам і нейкімі медыкаментамі знаёмая жанчына ў белым халаце і ў той жа пуховай хустцы на плячах.

« — Выпі вось гэта, Люда, — сказала яна мне.

Я адштурхнула рукою паднос, і паліцаі загналі мяне ў машыну. Загудзеў матор. Душагубка кранулася з месца... Там было яшчэ некалькі незнаёмых мужчын. І ўсе мы чакалі: вось-вось пусцяць газ... А машына ўсё кружыла па нейкіх вуліцах, здаецца, некалькі гадзін, цэлую вечнасць кружыла. Нарэшце, зрабіла апошні круг і спынілася».

(Працяг будзе)

# КІНО

## ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Нарва**

,,Poznańskie słowiki" (polski), 27—31.

**Чыжы**

,,Na Rusi" (radz.), 27—31.

**Дубічы Царкоўныя**

,,Falstaff" (hiszpański), 27—31.

## БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

,,Dzień, w którym wypłynęła ryba" (grecki), 27—31.

**Орля**

,,Wycieczka w nieznane" (polski), 27—31.

**Райск**

,,Świat grozy" (polski), 27—31.

## БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

,,Dwadzieścia godzin" (węgierski), ,,Taki duży chłopak" (radziecki), 26—29.

**Міхалова**

,,Dziewczyna kłamie" (jugosł.), 26—27. ,,273 poniżej zera" (polski), 28—29. ,,Fanfan tulipan" (franc.), 30—31.

## САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

,,Kochajmy syrenki" (polski), 26—27. ,,Partyzanckim szlakiem" (jugosłowiański), 28—29. ,,Czworokąt śmierci" (czeski), 30—31.

**Шудзялава**

,,Lecą żurawie" (radz.), 27—31.

**Янаў**

,,Ruchome piaski" (polski), 27—31.

## СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

,,On nie chciał zabijać" (radz.), 26—27. ,,Sprawdzono min nie ma" (jugosł.), 28—29. ,,Pamiętnik pani Hanki" (polski), 30—31.

**Мельнік**

,,Fatalny list" (angl.), 26—27. ,,Awantura o Basię" (polski), 28—29. ,,Kanał" (polski), 30—31.

**Мілейчыцы**

,,Nieprzyjaciel u progu" (radziecki), 26—27. ,,Panie inspektorze" (jugosł.), 28—29. ,,Maskarada szpiegów" (angl.), 30—31.

## ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**

,,Rozwód z miłości" (węgierski), 30—31.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem: CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 5861

